ГОД ВЫДАН. III. Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem ЦАНА 30 ГРОШ.

# МАЛАНКА

ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ

5. III. 1928 „МАЛАНКА" СМАЛІЦЬ ШТО ДВА ТЫДНІ! № 3

## У часе выбараў.




Прэч з дарогі, абібокі, **Беларусь** ідзе!



# ПРЭЧ!

Бура рве і стогнуць нетры
Зямлі маці. У паветры
Лемет дзікі вые плача...
Гэй, братко мой, небарача,
Селянін!—глянь, ёсьць тут штосьці:
То к табе вун пруцца госьці;
Спраў мандатных ягамосьці,
То табе вун чорна зграя
Зноў, рай, неба абяцае,
Цешыць словам, цешыць ласкай,
Салаўінай льлецца казкай
Шчырасьць панская сьвятая...

Выйдзі, выйдзі, браце, з хаты,
Што ім трэба, запытай ты?
Што ім трэба, юдам, здрайцам,
Сьлёз тваіх, твайго жабрацтва?
Твайго ліха, твайго гора?
Дзе-ж былі вы, здрайцы, ўчора?!
Дзе? — Далёка, ой, далёка!
Ад сялянскіх бедаў — вока,
Пад звон чарак, крыху, мовы
Прапівалі лёс яго вы...
Сяньня зноў зайшла патрэба...
Прэч! Нікога нам ня трэба!
Прэч гані ад курнай хаты
Паляўнічых на мандаты.
Пакажы ўсяму ты сьвету,
Што ты сам дасягнеш мэты,
Уласных сіл агнём, запалам,
Сіл, якіх у нас нямала!!!

М. Васілёў



Асьцярожней, агітатар,
Покуль грошы ды мандат той,
Покуль зловіш на вуду нас.
Каб ня нюхаў кулака нос.

— Так пяюць, я чуў, сяляне...
Хто-ж пярэчыць таму стане?

М. В.




✕ Кажуць, што з прычыны частых у апошнім часе конфіскацыяў беларускіх газэт, віленская адміністрацыйная ўлада мяніцца выпісаць з заграніцы адумысную машыну-аўтамат, якая бяз помачы чалавека магла-б конфіскаваць па некулькі газэт у дзень.

✕ Кажуць, што адказны рэдактар газ. „Думка Працы" мае адтрымаць тытул „ганаровага obywatela" на... Лукішках за пабіцьце ім сусьветнага рэкорду ў галіне атрыманых конфіскацыяў.

✕ Кажуць, што „вялікі *бѣлорусскій* дзеяч" быўшы сэнатар Назарэўскі гэтак шануе беларускую культуру, што не пазваляе навет сваім уласным дзецям да яе дакранаццa. Дзеля чаго сваіх дачок вуча ў польскіх гімназіях, а сыноў у „кадэцкім корпусе" ў Варшаве.

✕ Кажуць, што „праўдзівы абаронца беларускіх сялян і работнікаў" б. пасол Ярэмач, даў слова, што калі прайдзе другі раз у Сойм, пачне праводзіць беларусізацыю ў сябе (we własnym domu), дзе яго сям'я гаворыць толькі папольску.

✕ Кажуць, што ў шпіталь св. Якуба ў Вільні нядаўна прывязьлі небясьпечна хворага чалавека, маючага прыкметы буйнага паміашаньня.

Дактары сьцьвярджаюць, што хворы быў зусім нармальным чалавекам і захварэў пасьля прачытаньня газэты „Народ".

✕ Кажуць, што вядомы ў Баранавіцкім павеце агітатар Умястоўскага — Цяўлоўскі заказаў сабе візытныя картачкі, на якіх залатымі літарамі мае быць напісана:

> CIAWŁOWSKI
> były Sekretarz partji «Piast»,
> obecnie Komendant «Strzelca»
> i kandydat na posła do Sejmu.

✕ Кажуць, што Паўлюкевіч, калі даведаўся, што яго быўшая „гвардыя" пачынае яго пакідаць і пераходзе да другіх партыяў, гнеўна стукнуў кулакам і закрычэў:

— *Эх, мерзавцы!* Жалко, што няма майго вернага Каверды, — ён-бы з імі хутка расправіўся-б.

## Час да ўсяго прыглядацца— Зразумеці пастарацца!

Ні гу-гу!
Ні чы-чы!
Замаўчы!
Ня крычы!

І нічога не кажы нам!
Мы працоўная дружына,
Мы работнікі-сяляне.
Покі змогі, сілы стане,
Покуль моц рукі мазольнай
Не здабудзе долі вольнай,
Усе ў шэрэгі станем сьмела,—
Не чапай, дзе набалела!
Дай дарогу! Прэч з парадай
Груганьнё—вам імя—„здрада"!
Сьцеражы свае абсацы,
Марш ад будаў у палацы!
Што вы цемру шлеце? Позна!
А „Маланка" дзе?! Гэй грозна

Бі, гасі направа-лева.
Каб агнем усё гарэла,
Каб было праз родны гоні
Усё відаць, як на далоні!

Пяруном таму бі ў вочы,
Хто над доляю сірочай
Подла сьмее кпіць-сьмяяцца;
Сьмех хай стогнам адгукнецца...

Ні гу-гу!
Ні чы-чы!
Замаўчы!
Ня крычы!

І нічога не кажы нам —
Будзем жыцьці, дык ня згінем!

**М. Васілёк.**

## МАЕ РОЗУМ.

— Чаму-ж ты, Гаўрыла, свае кандыдатуры ў Сойм не выстаўляеш?

— Ці-ж я дурны! З Сойму адна дарога: да дзедавай хаты — за краты, або панскім, ці жыдоўскім парабкам застацца.

*К. С.*

## НЕ ПАПАДЗЕ.

Як ты думаеш, ці б. пасол Рагуля пападзе на „Лукішкі"?

— Э, дзе там! Ён-жа даў падпіску, што з Навагрaдчыны нікуды выяжджаць ня будзе.

## ПРАРОК.

— Цікава, як пасьля выбараў, цяжэй ці лягчэй будзе?

— Нам, сялянам, вядома, цяжэй: новыя паслы — новыя падаткі, а паном паслом лягчэй, новыя паслы — новыя дыеты.

## Забедавалася.

— Чаго ты, бабулька, заплакалася?

— Эт, дай спакой! Ксёндз у касьцёле казаў, што хутка канец сьвету будзе. Пяруны — маланкі ўсіх людзей павысмальваюць.

— Няўжо ўсіх чыста?

— Не ня ўсіх, толькі той і ўратуецца, хто на нейкіх *андыкоў* галасаваць будзе.

— Можа бабулька не дачула, мо' ксёндз казаў на *індыкоў*?

— А ліха-ж яго ведае, мо' і на індыкоў, а скуль-жа я іх вазьму калі навет у мяне і курэй няма, ня толькі індыкоў.

**Калі любіш цяпло ў хаце, —**
**За „endeków" głosuj, bracie!**

(*Аўтэнтычна*).

— У мінулыя выбары (ў 1922 г) наш абшарнік Любанскі і іншыя (ў Навагрaдчыне) далі сялянам 500 вазоў дроў, каб галасавалі за „васьмёрку".

— Бедныя, згалеюць зусім! У гэтым годзе павінны ўтрая больш даць, бо эндэцкі нумар утрая большы — „24".

*Я. М.*

## ПАГОДА і КАЛЕНДАР.

Адліга. Капае са стрэх,
Сырое, цяжкае паветра.
Зірнула сонца, як на грэх,
Чуваць вясну у цёплым ветры...

Ў календары-ж... трашчыць мароз
Мяцеліца дыміць-злуецца,
Аж страшна выткнуць з хаты нос,
Так вельмі сьцюдзена здаецца...

*Чэх.*



## Сусьветны [п]атоп.




...А тагды, калі Беларусы сталі грэшнымі натварыўшы сабе розных палітычных ідалаў і разьбіўшыся на многа партыяў, Бог загневаўся на іх і скараў іх вялікім патопам, якога ня бачыла зямля.

Дзень і ноч льлюцца хмары розных перадвыбарных газэтаў, адозваў і т. п. Усё жывое хаваецца, дзе можа...

## Юда адтрымлівае трыццаць срэбнікаў.

Пасьля разгрому „Грамады“, пакінуты, напэўна дзеля яе расплоду, адзіны незаарыштаваны пасол-грамадовец Юры Сабалеўскі хутка зьмяніў орыентацыю і паступіў у Ярэмічаў лягер, прысягаючы на вернасьць „Сялянскаму Саюзу“.




— О, Вялікі Ярэма, уладыка ўсемагутнай машны! Я адракаюся ад „Грамады“, як ад чорта, — толькі мне беднаму срэбнікаў дай!.. дай!.. дай!..

## Казка аб „наўчоным Спадару“, Ярэме — баламуце і Чатырку — чмуце.

З давён-даўна кажуць людзі, калі дзе што кепскае,—дык гэта Люцыпар *) вінават.

Было гэта і ў цяперашнія выбары.

Паслаў Люцыпар „Спадара“, **) Ярэму і Чатырку ў Заходнюю Беларусь круціць-чмуціць у часе выбараў.

— Ідзеце, — кажа, — мае служкі верныя. Старайцеся мне дагадзіць, а хто за ўсіх спрытнейшы, той пасло̀м будзе.

Бягуць Спадар з Чатыркам, як ганчакі, а Ярэма з-заду сапець, крэкча, іх даганяючы.

Ярэма ў Сьвянцяншчыне, Спадар у Лідчыне, а Чатырка ў Навагрвдчыне „працуюць“.

Пачуў Ярэма, што ў мястэчку кірмаш, ён туды. Стаў на воз (ледзь-ледзь ускарабкаўся).

— Сяляне,—кажа,—вы дурні! Вас чмуцяць розныя прайдзісьветы. Ня слухайце іх! А слухайце толькі мяне, я іду з нямецкай і жыдоўскай буржуазіяй. У іх шмат даляраў і гольт-марак. А, вядома, хто грошы мае, —той усё мае. Бачыце, якое я пуза маю! Хто мне яго даў? — грошы! Я купіў дачу ў Калёніі пад Вільняй. За што я купіў?—За грошы! А цяпер я хачу завясьці ў сябе малочную гаспадарку. А за што ўсё гэта?—За грошы!

Дык, бачыце, ўсё робіцца толькі за грошы. А калі я буду багаты, дык і вам мо' што-колечы перападзе.

А дзеля таго галасуйце за...

Тысячы рук абцугамі ўпіліся ў Ярэмава футра і пацягнулі прэч з воза.

Бедны Ярэма! Сорак восьмы пот ліўся з яго, а ён усё бег і бег, куды толькі вочы глядзелі. Бег, а пуза яго траслося, як квашаніна.

---

У гэты самы дзень Спадар склікаў сход. На сходзе ён казаў:

— Слухайце, спадары, што я вам скажу. Я ў Празе скончыў заграгічны унівэрсытэт, а дзеля таго я завуся наўчоны і вы, дурні, павінны мяне слухаць. Цяцер розныя грамадзістыя, Ярэмічы, Рагулі, Міткевічы і інш. хочуць папасьці ў Сойм, а мяне з сабой не бяруць, дык я вось сам надумаўся пайсьці бяз іх ласкі. Дзеля гэтага я залажыў „Narod“ і „Нашую Бацькаўшчыну“, каб вы, значыцца, выбралі мяне ў Сойм, ці, як памойму, у Законадайку.

---

*) Люцыпар — пякельны начальнік.

**) «Спадар» — па дакумэнтах Янка Станкіўчык.

Вам я нічога не дэклярую, бо сам нічога ня маю, а калі меці буду, дык мо' што і перападзе на вашу долю...

— Проч!... Вон!...

І Спадар ляцеў праз мястэчка, як ашалелы.

---

Вось ужо трэці тыдзень, як Чатырка аб'яжджае вёскі. Зьбярэць сялян у адну хату дый угаварвае:

— Галасуйце, дурні, за мяне. Гэта-ж я для вас найлепшы пасол буду. Прасеце ў мяне чаго хочаце,—усё дам,—нічога не пашкадую! Зямлі вам хочацца, бярэце яе хоць зараз!—гэта-ж не мая зямля, а панская, дык хай сабе паны вам зямлю даюць,—мне да гэтага ніякай справы няма. Асьветы хочаце. Добра! Зрабеце толькі мяне паслом, а пасьля каб міністрам асьветы, дык я вам у кожным мястэчку, ў кожнай вёсцы ня толькі школы, але гімназіі, унівэрсытэты панастаўляю..

Дык як, дзядзькі, будзеце за мяне галасаваць?

— А хто-ж ты такі?

— Я... я... быў троху грамадовец, троху полёнафіл, троху сельсаюзьнік, а цяпер, бачыце, я шчыры спадаровец. Мой Спадар з паняй Антанінай ходаюцца, каб даць нам, цёмным мужыком, шчасьце і ўсяго, чаго вы толькі зажадаеце...

— А бадай ты спух, як тая Антаніна! Яна—бач, пані вялікая.— У каракулях ходзіць, золата, брылянты носіць, а я навет на сьвята лепшага андарака ня маю... Вон, ты абармот, бо вось зараз каравай мятлой твае сівыя валасы пачышчу!..

І паплёўся нудна, сярод ночы Чатырка.

— Ня вераць мне людзі, ня вераць, — шаптаў ён, а з вачэй ліліся мутныя сьлёзы.

І паклікаў зноў Люцыпар да сябе Спадара, Ярэму і Чатырку. Доўга гневаўся на іх, доўга кідаўся на іх з капцюрамі. А яны, як нявінныя бараны, стаялі перад Люцыпарам, сумна пахіліўшы галовы.

Гнеўна рагатала ўсё пекла. Шугаў сьмярдзючы агонь. Было жудасна-страшна.

А Спадар, Ярэма і Чатырка зноў пляліся ў Заходнюю Беларусь.

Пляліся па мандаты...

*Улажсыў:*

**Сыч—надуў Лыч.**



## Зямля абяцаная.



— А, мой ты Лявонка! Дзесяты год ляжыш ты ў сырой зямельцы. Ляжыш і ня чуеш, як цяпер розныя панскія агітатары над нашай доляй бядуюць, і ўсё нам зямлю бяз выкупу дакляруюць. Вось каб ты жыў, Лявонка, і табе дзесяцін з дзесяток далі-б а мне, бабе дурной, хто-ж дасьць, мо' тут пад крыжам... ...Эх цяжкая ты, Зямля Абяцаная!

---

## Дачакаўся.

*Рыс. Яз. Горыд.*




— Ах, Божа, які я шчасьлівы! Ужо нарэшце марац (сакавік).

# Проект адозвы спадаровай.

... Эўрыка!

Ёсьць дзе зарабіць крыху.

Сам „спадар“ ідзе на выбары ў Сойм.

Ласы — відаць...

Стукнуўшы сабе пальцам у лоб пры гэтых словах, я пастанавіў удружыць родненькаму *спадару*:

Накруціць проект яго перадвыбарнае адозвы.

Задача, трэба прызнацца нялёгкая!

Галоўная труднасьць:

Як справіцца з мудрым „науЧоным“ *штылем* і як вытрымаць *правапісь, прысабсчаную* Спадаром?

Нядоўга думаючы, я рашыў пісаць больш-менш бяз ніякага *штылю*, а правапіс хай сабе будзе такі, які вывядзе рука, тудысюды адхіляючыся ад свайго заўсёднага навыку.

Дзеля большай арыгінальнасьці я думаў навет увясьці, дзе гэта трэба, лацінскі *ёт*, але пасьля адкінуў гэтую думку, каб часам наш Спадар не закінуў мне, што я вельмі ўжо да яго падлабуньваюся з мэтаю большага ганарару.

---

І вось які выйшаў у мяне проект:

### ГУКНІЦА (АДОЗВА).

Беларускае спадарства, сялянства і работніцтва!

Гукаю я вас, браты, у нашу Беларускаю Сялянскаю Партыю, каб выбіцца мне *наўзьверх* нашага беларускага жыцьця і не зрабіць тае вялікае *абмылы*, якую буду *помнець* увесь свой век, і якую зрабіў я пяць гадоў таму, вучачыся *язычнасьці* (хвілёлёгіі) у Празе-Чэхаславацкай, замест таго, каб проста тады ісьці ў Сойм, две Сядзелі Ярэмічы, Рагулі і іншыя. Я з імі паўгода *траха* (амаль) вяду ходаньне (барацьбу) і думаю выйсьці з гэтага *лёса* (прыгожа). Надумаў гэта я сабе нанясьці ня толькі Рагулём і Ярэмічам, але і ўсім іншым беларускім партыям апошні магутны спадарскі *выцін* (удар). Іх *дручныя ворганы*: газэты і гукніцы (адозвы) даходзяць да вас часьцей, але думаю, што мой „Народ“ для вас *цямлейшы* (больш зразумелы). Яго апрычоны дух із вашых галоваў (*думніцаў*) ніколі не павінен выходзіць. Гэта вам трэба *помнець*. Дый яшчэ едно ведайце, *спадарыкі*

*Я буду ходацца* (бароцца) з нашымі ворагамі адзін ляпей за ўсіх маіх папярэднікаў у *Законадайцы* (Сойме). І дзеля гэтага няма чага нудзьгацца (сумаваць), што ад нашае роднае Беларускае Сялянскае Партаі можа ў гэтэй самай Законадайцы (Сойме) быць *траха* (амаль) нікога, *апрычна* нэўне-ж мяне—вашага наўчонага.

А як-жа ж я мог начай зрабіць, калі *вокаю* (гляджу), аж у цяперашні *траха* Сойм пруцца ўсе, хто як можа, часам навет і зусім небеларускія спадары: розныя—фэльчары маскальскія з свомымі (самазванымі) тытуламі „дактароў“ (а я-ж такі праўдзівы „доктар язычнасьці“), розныя — акцызьнікі (падатачнікі), а *мозгаюць* (падумваюць) навет і эс-эры, і дзівосы тут і сьмяхоты, як той казаў. Кожны бярэ на сябе цяжэрнае *носішчі* бараніць вялікаю народнаю нашаю справу. А справамі ўсюды і заўсёды кіруе насьвеце траха адзін Спадар.

Дык помнеце, браты, як толькі прыдзе час падаваць галасы:

Хай кожны землягор (земляроб) кідае свае дробныя будзёнfamous справы, хай запражэ каня ў *ездзўку* (воз), а калі будзе на зямелечцы нашай ляжаць тады сьнег — дык у *коўзьні* (сані) — і хай прэць, як Пяруном, да свайго абводу, каб *грукануць* (кінуць) голас за той сьпісак, за той нумар, які вам загадаць пастараюся ў пару.

Хай кожная *спадыня* (мужычка, пані, шляхцянка) кіне на адзін дзень (а можа і на паўночы) свае саганы, чапёлы, венікі, куры і *сьвінчыкі* (парасяты), хай вылезе з свае *варыстае хэты* (кухні), хай побач із сваім спадаром (мужыком, шляхцічам, панам) прэцца да *галосішча* (абводу, дзе падаюць галасы) дый галасьне за нашаю Беларускаю Сялянскаю Партыю!

Хай ня зьніштоціцца (змарнуецца) ніводзін наш спадарскі голас, калі хочам жыць і бараніць нашаю беларускаю роднаю справу!

Хай жыве „Народ“, які я выдаю для вашых цёмных *мазгоўніцаў* у Вільні!

---

Скончыў я гэты проект спадаровае адозвы і думаю:

Пабегчы да яго, можа хоць на кватэру, што паўмесяца няплачаная, зараблю.

Але дзе ўжо мне лезьці на вочы чалавеку ў гэткі гарачы час.

Хай лепш азнаёміцца з маім *творствам* цераз паважаную „*Маланку*“ і свой *спадарскі* дасьць адказ.

Так я вось і змушаны ўяе чытачоў адбітаць увагу, а то мо' што й весялейшае на гэтым месцы напісаў-бы.

**Picolo.**

# Народны гумар.

### ПЯЦЬ ВЯКОЎ.

— Калі ты такі разумны, скажы, колькі вякоў жыве чалавек?

— Вось дурны! — Вядома што адзін.

— Не, пяць: чалавечы, валовы, конскі, асьліны і сабачы...

— Эт, глупства чаўпеш.

— Пажывеш, сам переканаешся. Пакуль чалавек не ажэніцца, жыве палюдзку, гэта—век чалавечы. А як ажэніцца, робіцца спакойны, як вылажаны вол, гэта — век валовы. Пасьля ідзе век конскі — бо пойдуць дзеткі і чалавек на іх працуе, як конь, дзень і ноч. Падрастуць дзеткі і лічаць сябе вельмі разумнымі, а бацьку аслом, — век асьліны. Нарэшце ідзе век сабачы, бо дзеткі лічаць старога бацьку ня йнакш, як за сабаку. Стуль навет і пагаворка пайшла: „Дома без старога, як без сабакі, не абыйдзешся“.

*Стары Дзед.*

### З АПАВЯДАНЬНЯ АСАДНІКА

(Падслуханае).

... „*Ідэн я, ідэн по уліцы, псыглёндам сень, патсэ, ктось лезы в рынштоку, псыглёндам сень, ас то... я! А му бэнц в мордэн, як в самовар, ас му цяркі в оцах станэлі.*

**В. Н.**

### Я НЯ ХОЧУ...

„Ешце госьцікі і пеце,  
Выбачайце мо' што мала...  
Тэкля, дай на печ там дзецям!“  
Жонка Тэкля жвава ўстала,  
Узяла хлеба, цэтлю сала  
Падыходзе: — „На, Сьцяпанку!“  
„Я ня хоцу!“ — „Мо' сьмятанку  
Будзеш з блінчыкам?“—„Ня хоцу!  
— „Дык на сыра!“—суне хлопцу.  
— „Й піражка дам... — “Мне ня смасна,  
Ні блінцы ні пілагі“...  
— „Дык чагож ты?...а мо' масла?“  
— Водкі хочацца! Гы—гы!

**М. В.**

## Каля̆ памятніка
(У МАСКВЕ).



— Дэ чаго слабая на вочы стала: „цара-батюшкі“ на памятку ня бачу!

### ПЕРШАЯ ПРЫКМЕТА.

— Кажуць, што ты хутка будзеш мець мужа?

— Магчыма, бо ўжо дзіця маю.

*М.*

### МАЎЧЫ, ДУРНЮ!

— Скажы, мамачка, што гэта такое фашысты?

Гэта — такі чалавек, які хоча ўсім кіраваць, ня дбаючы аб волі другога.

— Ага, разумею, гэта так, як мама з таткам...

Маўчы, дурню!...

### НА ЛЕКЦЫІ ФІЗЫКІ.

*Настаўнік*: Кудуніч, дай прыклад выпукатага люстра.

*Вучань*: Ваша лысіна, пане настаўнік.

### ПАМІЖ НАРАЧОНЫХ.

— Бойся Бога, Ўладак, за тыдзень наша вясельле, а ты да карчмы ідзеш!

— Нічога, ня бойся! Вярнуся хутчэй як за тыдзень.

## Конфіската „Маланкі“.

Па загаду п. Камісара Ўраду на м. Вільню з дн. 18. II. 28 за № 1098/V сконфіскованы № 2 „Маланкі“ (за 20 лютага с. г.). Рэдактара нашага абвінавачваюць па 74 арт. К. К.

Дзеля таго, што пры дакананьні ўспомненай конфіскацыі паліцыя згадала раскінуць набор усяго нумару, не выключаючы нават таго, што ня было конфіскавана, рэдакцыі нашай прышлося набіраць увесь нумар другі раз, што і выклікала гэтакае спазьненьне гэтага нумару.

### АД РЭДАКЦЫІ:

Даводзім да ведама нашых паважаных падпісчыкаў і чытачоў „Маланкі“, што Рэдакцыя і Адміністрацыя часоп. „Маланка“ з 1-га сакавіка с. г. **перанесена** з дому № 4 па Гэтманскай вул. да дому № **2** па тэй самай вуліцы, куды просім скіроўваць корэспондэнцыю і зварочвацца асабіста.

### ВОСЬ ДЫК ДАЎ.

— Надовечы на мяне напаў Лявон, дык я яму даў... Вось дык даў!

— А чаму ў цябе валасы павырываныя?

— А, братачка, ледзь уцёк...

### ФАМІЛЬНЫ ПАЛАЦ.

— Я хоць не магнат, а фамільны палац маю!

— Які?

— А вастрог у Беластоку. Там бацька мой сядзеў, я і яшчэ двох братоў.



## Вы „крестьяне“ ў вус ня дуйце
## На „Р. Н. О.“ галасуйце!



„Разлука ты, разлука,—
„Чужая старана!...
На сэрцы гора-мука,
Адно „спасенье в „Р.Н.О.“!

*„За нами-же крестьяне“,*
*За матушку—за Русь!*
Вас чмуцяць... Што за слова
Такое: *„Бѣлорусь“* !?

*В „Единой—недѣлимой“*—
Уся сіла наша й *„мочь“*,
А з выдумкамі̆ часу,
З чужым *нарѣчьемъ прочь!*

Што можа прыгажэй быць
(*По-русски говоря*),
Як зноў мы вам здабудзем
*„Корону и царя“* !...

Ярома толькі здрадзіў,
Ўжо з намі нӗ пайшоў...
Жыды і немцы болей
Засыпалі грашоў...

Нядаўна-ж пры выборах,
Аж покуль будзе жыць,
Ён кляўся верай, праўдай
Нам лёкаем служыць!

Да хай мужык ня дрэміць,—
Падасьць голас за „РНО;“
Ў падзяку лад той вернець
З *„нагаечкай“*—адно!

*„За намі-же, крестьяне,*
*За матушку—за Русь!*
*За вѣру, царя-батюшку—*
*Плевать на Бѣлорусь!...*

**Мі—лёк.**

# На вуснах не абсохла.



— Вось усе кажуць пра неахайнасьць... Вучэцеся культурнасьці... Бярэце прыклад ад Эўропы... А на які чорт нам Эўропа? Мы гэтым Эўропам заўсёды нос вы-церці можам.

*(З радав. гумару).*

## НАША ПОШТА.

**Язэпу Народніку**: У вершы сваім Вы пішаце:

«...У дзяўчыны стан прынадны  
Ён уводзіць із сабой».

Чаму толькі стан? — А дзе рукі, ногі, галава? Адказ тэлеграмай.

**А. Чупрыне**: Прачытаўшы Вашы жарты, наш рэдактар захварэў на расстройства нэрваў і цяпер яшчэ лечыцца ў шпіталі. Вось да чаго давялі Вашы жарты! А што-б было з нашымі паважанымі падпісчыкамі, калі-б мы зьмясьцілі ў „Маланцы“ Вашы, як іх называеце, жарты“.

**М. Ліпскаму**: Вы прыслалі нам свае вершы і пытаецеся, колькі грошай плацім мы за кожны радок надрукованага вершу.

За такія вершы, як Вашы, мы ня толькі за радок, але і за цэлы пуд нічога не заплацім.

**Ю. Сергіевічу**: Ня крыўдуйцеся моцна на нас, што вашы вершы і на гэты раз сьвету ня ўбачаць. Трэба Вам часьцей пісаць, але карацей і больш выразьней.

Адказ Вам быў зьмешчаны ў № 10 „Маланкі“ (Наша пошта).

**М. Сушко**: У нашага рэдактара не хапае слоў, каб належна ацаніць Вашыя пясьнярскія здольнасьці. Шкадуючы месца, даем толькі невялічкую (але затое найлепшую) частку з Вашага вершу: „Багатая дзяўчына“, хай нашыя падпісчыкі і Вашы суседзі даведаюца, які вялікі пясьнярскі талент марнуецца на нашай Беларусі.

Каб не папсаваць Вашага вершу, стылю і орфографіі, падзам як у арыгінале:

«...Сталі вочы як у рака  
«Вэнкі як у зубра  
«Стада злосна як сабака  
«А зубы гострыя, як у бубра.  
«Рот шырокі  
«Аз да ушэі  
«Хопь ты шняроўкі  
Тоўстыя прышэі.  
«Борода аз да грудзеі  
«Тоўсчыні на половіну аршына  
«Хоць ты везі да Амерыканскіх музеі  
«А потым да Бэрліна»-.

І даў-жа Бог чалавеку такое натхненьне! Ды Вы з сваім талентам Купалу і Коласа за пояс затнуць можаце!

**К. Лабунку**: Вы прыслалі нам вершы і ў лісьце сваім пішаце: „Калі мае вершы няпрыгодныя, — кіньце іх у кошык“. Добра, што вы далі нам добрую раду, бо мы ня ведалі, што з імі рабіць (у „Маланку“ няпрыгодныя).

Волю Вашу выканалі, якнайлепш, — вершы ў кошык кінулі старанна.

**Кнышу**: Калі хочаце супрацунічаць у нашым аддзеле „Сьвежыя Навіны“, дык падавайце які-небудзь камічны факт, які — праўдзіва меў месца, прычым падпісвайце сваім імем і прозьвішчам і адрэс (які будзе трымацца ў сэкрэце).

**Я. Ласуну**: Верш Ваш „Два каханьні“ пайшоў у кошык. Тое самае зробім і з Вашым трэцьцім каханьнем, калі ў ім ня будзе гумару. Лепш ня прысылайце.

**Міколе К—ку**: Вы прыслалі нам свае „творы“ і пішаце, што гэта — „вершы“. Наш рэдактар гэтаму не паверыў; прачытаў і, падумаўшы, што гэта якая-небудзь чаўпня, кінуў іх у кошык. Гэтак сьвет і не пабачыў Вашых „вершаў“!

**К. Сьвет... Яз. Пяткуну, Яз. Народніку, Юліку Сергіевічу, Івану Барану, Якубу, Уладзіку К.** — За Вашыя вершы і жарты шчыра дзякуем. Разглядацца будуць пры рэдагаваньні чароднага нумару „Маланкі“.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 2**
«МАЛАНКА»



ПАДПІСНАЯ ЦАНА:

на 1 год 8 злот.  
„ паўгода 4 „  
„ тры мес. 2 „  
„ адзін м. 1 „

За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт.

Рэдактар **М. Луцэвіч**. — Выдавец: **Я. Маразовіч**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.